ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КБ(б)Б

## РЭВОЛЮЦЫЙНАЯ ЗАКОННАСЬЦЬ



ЖНІВЕНЬ

№ 6

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1 9 3 2

# РЭВОЛЮЦЫЙНАЯ ЗАКОННАСЬЦЬ

## I. Прырода рэвалюцыйнай законнасьці і яе адрозьніваньне ад буржуазнай „законнасьці“

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Пры разборы пытаньня аб рэвалюцыйнай законнасьці нас ня можа ня цікавіць пытаньне, маючае выключнае значэньне, — аб прыродзе рэвалюцыйнай законнасьці і аб яе адрозьненьні ад буржуазнай «законнасьці».

Чым-жа адрозьніваецца рэвалюцыйная законнасьць ад буржуазнай «законнасьці», якая служыць у руках буржуазнай дзяржавы сродкам клясавага прыгнечаньня, сродкам трыманьня ўлады ў руках буржуазіі?

Буржуазная «законнасьць» прадажная да мозгу касьцей, ліцамерная, насычана кроўю афяр самага неабвузданага эксплёататарскага

беззаконьня. Рэвалюцыйная законнасьць стаіць на варце клясавых інтарэсаў працоўных, якія зьвергли ўладу эксплёататараў, зьнішчылі іх клясавае панаваньне і будуюць новае социялістычнае грамадзтва.

Прынцовае адрозьненьне нашай рэволюцыйнай законнасьці ад «законнасьці» буржуазіі заключаецца ў рэволюцыйным значэньні нашага закону, у яго творчай ролі ў барацьбе рабочай клясы за соцыялізм,—у тым, што наш закон, як творчая сіла, садзейнічае грамадзкаму разьвіцьцю, дапамагае працоўным у іх прасоўваньні наперад—да пабудаваньня бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва. Буржуазная-ж «законнасьць», наадварот, пабудавана на прынцыпе абароны ладу эксплёататараў і паразытаў. Яна выключае ўсякую магчымасьць далейшага руху чалавечага грамадзтва наперад, бо далейшы рух чалавечага грамадзтва—гэта рэволюцыйная барацьба рабочай клясы за захоп палітычнай улады і зьнішчэньне панаваньня буржуазіі,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

І другое адрозьненьне заключаецца ў тым, што ў буржуазнай дзяржаве, у капіталістычных краінах, закон зьяўляецца згусткам насільля і нічым больш. У рэвалюцыйнай-жа законнасьці побач з элемэнтамі прымушэньня і насільля ёсьць сіла культурнага ўзьдзеяньня, сіла выхаваньня і перавыхаваньня, г. зн. такія сілы, якіх зусім ня мае буржуазная «законнасьць».

## II. Чаму ўзрасло значэньне рэвзаконнасьці?

Пытаньне аб рэволюцыйнай законнасьці не ўпяршыню ставіцца нашай партыяй з усёй рэзкасьцю і рашучасьцю.

У. І. Ленін яшчэ ў 1919 г. пісаў, што «самае малое беззаконьне, самае малое парушэньне савецкага парадку ёсьць ужо дзіра, якую зараз-жа скарыстоўваюць ворагі працоўных».

У 1922 г. у сваім гістарычным пісьме да т. Сталіна «О двойном подчинений и законности» У. І. Ленін з клясычнай выразнасьцю і ле-

нінскай паўнатой упяршыню падкрэсьліў значэньне рэволюцыйнай законнасьці.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

З таго часу наша партыя не аднакроць падкрэсьлівала значэньне барацьбы за рэволюцыйную законнасьць.

«Рэволюцыйная законнасьць ня ёсьць пустая фраза»,—гаварыў на XV зьезьдзе партыі т. Сталін.

«Рэволюцыйная законнасьць,— як гэта ўказана ў пастанове ЦВК і СНК СССР ад 25/VI 1932 г.,— зьяўляецца адным з важнейшых сродкаў умацаваньня пролетарскай дыктатуры, абароны інтарэсаў рабочых і працоўных сялян і барацьбы з клясавымі ворагамі працоўных...»

Чаму і чым выклікаецца неабходнасьць завастрыць зараз увагу ўсіх партыйных і савецкіх органаў і ўсёй нашай савецкай грамадзкасьці на пытаньні аб рэволюцыйнай законнасьці, чым тлумачыцца злобадзеннасьць гэтага пытаньня ў сучасны момант, чаму значэньне

рэволюцыйнай законнасьці цяпер так узрасло?

Злободзённасьць пытаньня аб рэволюцыйнай законнасьці, узросшае значэньне рэволюцыйнай законнасьці абумоўліваюцца асаблівасьцямі сучаснага этапу барацьбы за соцыялізм, зьменамі, якія адбыліся ў нашай экономіцы, узросшай політычнай і вытворчай актыўнасьцю найшырэйшых мас рабочай клясы і ўзрастаючай політычнай і вытворчай актыўнасьцю найшырэйшых мас колгаснага сялянства.

У рэзультаце няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, у барацьбе за ленінізм у тэорыі і на практыцы мы дабіліся найвялікшых соцыяльна-экономічных і матэрыяльна-тэхнічных зрухаў—дабудован фундамант соцыялістычнай экономікі.

На базе посьпехаў індустрыялізацыі мы дабіліся колектывізацыі 65 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, разгорнутага будаўніцтва саўгасаў і МТС і ператварэньня



ДЛЯ ЗАЎВАГ

СССР з краіны дробнага і найдрабнейшага земляробства ў краіну буйнага, аграмаджанага мэханізаванага земляробства. Гэтым самым вырашана ў асноўным другая рашаючая і найцяжэйшая задача пролетарскай рэволюцыі—задача пераробкі дробнатаварнай гаспадаркі і ліквідацыі тых каналаў, з якіх, як указваў У. І. Ленін, «штодзенна, штогадзінна зноў і зноў нараджаецца капіталізм». І калі на XVI зьезьдзе наша партыя констатавала вырашэньне пытаньня «хто каго» на карысьць соцыялізму ў прамысловасьці, паколькі ў асноўных сельскагаспадарчых раёнах ужо закончана ў асноўным суцэльная колектывізацыя і ліквідацыя на гэтай аснове кулацтва як клясы, паколькі па ўсім Саюзе большасьць пасеваў, тым больш таварнай продукцыі прыходзіцца на соцыялістычны сэктар, то гэта значыць, што зараз пытаньне «хто каго» вырашана канчаткова і беспаваротна на карысьць соцыялізму ня толькі ў прамысловасьці, але і ў

ДЛЯ ЗАЎВАГ

сельскай гаспадарцы, г. зн. ва ўсёй экономіцы СССР.

Іменна гэтыя гіганцкія посьпехі ў барацьбе за соцыялізм дал магчымасьць паставіць як пытаньне практычнай політыкі—барацьбу за ліквідацыю ўжо ня толькі капіталістычных клясаў, якія разгромлены і ў асноўным ужо ліквідаваны, але і аб ліквідацыі клясаў наогул. У другую пяцігодку стаіць задача ліквідаваць перажыткі капіталізму ня толькі ў экономіцы нашай краіны, але і ў самай сьвядомасьці людзей,—стаіць задача пабудаваньня бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва, — «ператварэньня ўсяго працоўнага насельніцтва ў актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва» (з пастановы XVII партконфэрэнцы).

Аднак грандыёзныя гістарычныя посьпехі ў справе будаўніцтва соцыялізму ў СССР ня зьнялі з парадку дня пытаньняў клясавай барацьбы, пытаньне «хто каго» перанесена на міжнародную арэну.

У наяўнасьці 35 проц. аднаасоб-

ных серадняцкіх гаспадарак—нось-бітаў індывідуальнай дробнай таварнай вытворчасьці. Ёсьць рэшткі гарадзкой дробнай буржуазіі. У наяўнасьці штодзенная агітацыя контррэволюцыйных элемэнтаў супроць новых форм соцыялістычнай вытворчасьці ў горадзе і вёсцы. Асталіся далёка яшчэ ня зжытыя ў сьвядомасьці і экономіцы людзей перажыткі капіталізму, эпохі, калі прыватная ўласнасьць вызначала сьвядомасьць людзей.

Гінучыя паразытычныя клясы «ня хочуць дабравольна сходзіць са сцэны» (Сталін). Яны ўсялякімі спосабамі прабуюць, каб як-небудзь сарваць соцыялістычнае будаўніцтва, або хоць колькі-небудзь затрымаць ці аслабіць яго посьпехі. Супраціўленьне паміраючых клясаў становіцца тым больш актыўным, чым слабей становяцца яны самі.

Рад фактаў гаворыць аб тэй шалёнай упартасьці, аб тэй лютасьці, з якою разгромлены кулак імсьціць передавіку-колгасьніку,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вясковаму актывісту, ізбачу, настаўніку, аб тым, як ён провоцыруе або сам удзельнічае ў зьнішчэньні, раскраданьні соцыялістычнай грамадзкай уласнасьці.

Вось некаторыя прыклады.

У красавіку 1932 г. у хату кулака вёскі Слабодка Парыцкага раёну Крука Івана зьявіўся прадстаўнік РВК тав. Галоўчанка праверыць выкананьне ім плацяжоў па дзяржабавязацельствах. У гэты час Крук з клясавай помсты ударыў т. Галоўчанка па галаве, ад чаго т. Галоўчанка страціў прытомнасьць.

У 1932 г. у Лепельскім раёне сыны буйнога кулака Куляшы — Андрэй і Хведар—моцна зьбілі і павыскубалі валасы з галавы ў т. Анухова за тое, што ён прабаваў выкрыць іх у спэкуляцыі прамтаварамі.

Кулак Бабруйекага раёну Прахневіч Андрэй 8 кастрычніка 1931 г. забіў сакратара комсамольскай ячэйкі Прахневіча Сяргея на глебе клясавай помсты.

У гор. Віцебску на фабрыку

пралезьлі кулакі Баравы і Стабораў. Для таго, каб выклікаць варожасьць да савецкай улады, Баравы і Стабораў у лютым 1932 г. кінулі ў кацёл, у якім гатаваўся абед для рабочых, мышынае гняздо і скарысталі гэта для агітацыі супроць савецкай улады, гаворачы рабочым, што савецкая ўлада, моў, корміць іх мышынымі гнёздамі і т. д.

Такіх прыкладаў можна прывесьці вельмі многа.

Гэтыя факты гавораць аб тым, што будаўніцтва социялізму адбываецца ва ўпорнай клясавай барацьбе з ворагамі социялізму— кулацтвам, спэкулянтамі, шкоднікамі.

Адсюль вынікае значэньне рэвалюцыйнай законнасьці як адзін з «важнейшых сродкаў умацаваньня дыктатуры пролетарыяту, абароны інтарэсаў рабочых і працоўных сялян і барацьбы з клясавымі ворагамі працоўных (кулацтвам, перакупшчыкамі, спэкулянтамі, буржуазнымі шкоднікамі) і іх контррэвалюцыйнай політыч-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

най агентурай» (з пастановы ЦВК і СНК СССР ад 25/VI 1932 г.).

Такім чынам, з агульных умоў нашай барацьбы за соцыялізм і конкрэтных умоў перажываемага пэрыоду вынікае, што рэволюцыйная законнасьць ахоўвае дыктатуру пролетарыяту ад усякіх спроб з боку клясавага ворага падарваць яе.

Рэволюцыйная законнасьць павінна выражацца ў рашучай барацьбе з прамымі контррэволюцыянэрамі і контррэволюцыйнымі палітычнымі організацыямі. Яна павінна выражацца ў рашучай барацьбе з манэўраным абходным рухам клясавага ворага, які рознымі мэтодамі (шкодніцтва) прабуе затармазіць наша соцбудаўніцтва. Яна павінна выражацца ў рашучай барацьбе з такімі зьявішчамі з боку клясавага ворага, як спэкуляцыя, шкодніцкая, спэкуляцыйная работа гандляроў і іншых былых людзей, якія прыстроіліся ў савецкім і асабліва ў коопэрацыйным апараце, у снабжэнцкіх і гандлюючых організацыях, і якія вядуць

там барацьбу супроць савецкай дзяржавы і савецкага гандлю, скажаючы яго нэпманскімі прынцыпамі і ператвараючы яго ў той-жа час у крыніцу асабістага абагачэньня шляхам падлогаў, растрат, хабараў, накідак на цэны, расьцягваньня і разбазарваньня дыфіцытных тавараў на прыватны рынак ды інш. Яна павінна выражацца ў рашучай барацьбе з паўлегальнай арміяй спэкулянтаў, — тых, якія бягуць насустрач колгасьніку на колгасны савецкі базар, перакупляюць тавар, спэкуліруюць, уздуваюць цэны. Яна павінна выражацца ў рашучай барацьбе з раскрадальнікамі грамадзкай маемасьці, у рашучай барацьбе з тымі хуліганствуючымі і наогул антыграмадзкімі элемэнтамі, якія раскрадаюць грузы на чыгуначным і водным транспорце, коопэрацыйную і колгасную маемасьць. Яна павінна выражацца ў рашучай барацьбе з кулацкімі і антыграмадзкімі элемэнтамі, якія прымяняюць насільле ў адносінах колгасьнікаў, якія не жадаюць вы-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

йсьці з колгасаў і сумленна і самааддана працуюць на ўмацаваньне колгасаў. Яна павінна выражацца ў дакладным выкананьні законаў савецкага ўраду аб узмоцненай ахове дзяржаўнай, коопэрацыйнай і колгаснай маемасьці.



Шматлікія факты, якія мы маем, гавораць аб шалёнай падрыўнай рабоце клясавага ворага ў гэтым напрамку.

У Старобінскм раёне кулак Крываблоцкі Пётра на працягу з 13 верасьня 1931 г. па люты 1932 г. падпаліў дзесяць хат актывістаў на глебе помсты да іх за іх актыўную работу па правядзеньні мерапрыемстваў партыі і ўраду ў вёсцы і, у прыватнасьці, за іх актыўную работу па колектывізацыі.

У Менскім раёне ўвесну 1932 г. два былых гарадавых і адзін былы член «Истинно русского народа» Барысэвіч і Скарабагаты і старшыня колгасу Барысенка, які сыстэматычна п'янстваваў з кулацка-заможнымі элемэнтамі,—усе яны, пралезшы ў колгас, пачалі агітаваць беднякоў і серадпякоў

аб нямінучасьці ў недалёкім будучым вайны з Польшчай і падбухторвалі беднякоў, каб яны першыя расьцягнулі аграмаджаную маемасьць.

Тады-ж у Менскім раёне Галенчык Васіль, заможны, сын высланага кулака—Бортнік, які меў раней заможную гаспадарку, і Русак Мікола—вядомы хуліган, які неаднакрацъ быў пад судом, пралезшы ў колгас, пачалі ўзрываць яго саўнутры. 3 ліпеня 1932 г. на нарадзе актыву колгасу гэтая група, пагражаючы забастоўкай, патрабавала разьмеркаваньня сенакосу не па працаднях, а па каровах, заявіўшы, што той колгасьнік, які пасьля гэтага выйдзе на работу, не астанецца ў жывых, і пачалі заклікаць колгасьнікаў разьбіраць аграмаджаную маемасьць. Нараду яны сарвалі і сабралі колгасьнікаў у хату нейкага Шапуры, дзе, пагражаючы забойствам, загадалі колгасьнікам на работу ня выходзіць. У рэзультаце гэтага колгасьнікі на работу ня вышлі.

І побач з гэтымі фактамі яўнай

ДЛЯ ЗАЎВАГ

контррэволюцыйнай работы мы маем факты недапушчальнай праваопортуністычнай практыкі з боку раду судовых работнікаў і камуністаў, напрыклад: судзьдзя Камарынскага раёну Сафронаў за спэкуляцыю прысудзіў толькі да 100 руб. штрафу ўмоўна буйнейшага гандляра збожжам Прусенка.

Гэты-ж судзьдзя прысудзіў кулакоў Леянка, Пасюка ды інш. за злоснае невыкананьне цьвёрдых заданьняў па загатоўках толькі да 100 руб. штрафу.

Як інакш можна кваліфікаваць работу гэтых судзьдзяў, як не работу правых опортуністаў, лібэральнічаючых у адносінах да клясавага ворага. Патураньнем клясаваму ворагу займаліся работнікі Ніжняжораўскага, Баршчэўскага сельсаветаў, Камарынскага раёну, калі яны ў 1932 г. не спагналі штрафу з кулацка-заможнай часткі за злоснае невыкананьне цьвёрдых заданьняў па загатоўках. Агентамі клясавага ворага па сутнасьці выступалі работнікі Гарадоцкай райміліцыі, якія ў 1932 г.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

колгасьніцу-біднячку Касьцюшэнка за ўбой цяляці аштрафавалі на 10 руб., а побач з гэтым перакупшчыка Грыгор'ева за тое самае— на 9 руб.; калі Аляксандраўскі сельсавет, Гарадоцкага раёну, побач з аштрафаваньнем серадцякоў Раманава ды інш. па 50 руб. кожнага, штрафаваў заможных за злоснае невыкананьне цьвёрдых заданьняў па загатоўках толькі па 10 руб. кожнага; калі Першамайскі сельсавет таго-ж раёну за ўхіленьне ад працоўнага ўдзелу ў дарбудаўніцтве аштрафаваў заможных Кузьміна ды інш. па 30 руб., а побач з гэтым серадцякоў Пруса ды інш. па 50 руб.; калі гэты сельсавет за патраву штрафаваў заможных па 30, 40 і 50 руб., а серадцякоў па 100 руб.

Факты шалёнага супраціўленьня клясавага ворага, факты праваопортуністычнай практыкі ёсьць амаль у кожным раёне.

Гэтыя факты, па-першае, наглядна пацьвярджаюць словы правадыра нашай партыі і рабочай клясы т. Сталіна, што «аджываю-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

чыя клясы супраціўляюцца не таму, што яны сталі мацней, чым мы, а таму, што соцыялізм расьце хутчэй, чым яны, і яны становяцца слабей, чым мы. І іменна таму, што яны становяцца слабей, яны чуюць апошнія дні свайго існаваньня і **вымушаны супраціўляцца ўсімі сіламі, усімі сродкамі»** (падкрэсьлена намі).

Па-другое, гэтыя факты зноў пацьвярджаюць рашэньні XVII партконфэрэнцыі, у якіх указвалася на няўнікнёнасьць «абвастрэньня клясавай барацьбы ў пасобныя моманты і асабліва ў пасобных раёнах і на паасобных вучастках соцыялістычнай будоўлі».

Гэтыя факты наглядна паказваюць, што правы опортунізм быў і астаецца галоўнай небясьпекай у радох нашай партыі.

## III. Ахова соцыялістычнай уласнасьці

Пастанова ЦВК і СНК СССР ад 7 жніўня 1932 г. аб ахове маемасьці дзяржаўных прадпрыем-

стваў, колгасаў і коопэрацыі і ўмацаваньні грамадзкай социялістычнай ўласнасьці зьяўляецца гістарычным дэкрэтам, які адлюстроўвае нашы вялікія посьпехі і мобілізуе масы на далейшую барацьбу за справу соцыялізму.

Соцыялістычная ўласнасьць надзвычайна вырасла. Скрозь і ўсюды фабрыкі, заводы, саўгасы, колгасы, склады, магазыны, коопэратывы, дамы, пасёлкі, чыгункі ды інш.,—усё гэта ёсьць грамадзкая ўласнасьць і «зьяўляецца асновай савецкага ладу» (з пастановы ЦВК і СНК СССР, ад 7 жніўня 1932 г.).

Такім чынам далейшае эканомічнае разьвіцьцё народнай гаспадаркі Савецкага саюзу, павышэньне матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных мас залежаць цяпер выключна ад умацаваньня і росту гэтай соцыялістычнай уласнасьці, залежаць ад умацаваньня заваяванага ва ўпорнай барацьбе з капіталістычнымі, кулацкімі элемэнтамі новага, соцыялістычнага, колгаснага ладу.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Разгромленыя эксплёататарскія клясы прабуюць шляхам раскраданьня, грабяжу грамадзкай соцыялістычнай маемасьці жыць за кошт працы рабочых і колгасьнікаў, з аднаго боку, і падарваць дзяржаўныя прадпрыемствы і колгасы—з другога боку. Ворагі савецкай улады, ворагі колгасаў ведаюць, што раскраданьнем, напрыклад, жывёлы, важнейшых частак ад машын, гаручага грамадзкіх будынкаў і інш. маемасьці аслабляецца вытворчая база саўгасаў МТС і колгасаў; тым, што раскрадаецца ўраджай, гатовая продукцыя, — тым самым зьніжаюцца харчовыя і сыравінныя рэсурсы пролетарскай дзяржавы і саміх колгасаў, зьніжаюцца фонды накапленьня ў саўгасах і колгасах; значыцца, гэтым самым зрываецца правільнае разьмеркаваньне гэтых продуктаў сярод рабочых і колгасьнікаў, затрымліваецца рост соцыялістычнай гаспадаркі, павышэньне продукцыйнасьці грамадзкай працы і ўзроў-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ню жыцьця рабочай клясы і працоўных мас гораду і вёскі.

Але кулак ня толькі сам займаецца раскраданьнем. Часта ён выступае ў ролі арганізатара раскраданьня, падбухторваючы на гэта і некаторую частку аднаасобнікаў і рвацкія элемэнты з асяродзьдзя колгасьнікаў, спэкулююючы на перажытках мінулага, прапаведуючы грабежніцкі лёзунг эпохі капіталізму—«або ты грабіш другога, або другі грабіць цябе, або ты працуеш на другога, або ён на цябе» (Ленін).

Трэба сказаць, што і ў асяродзьдзі колгасьнікаў ёсьць некаторая, хоць і невялікая, частка аматараў пажыць за кошт грамадзкай працы. Ёсьць паасобныя колгасьнікі, якія зусім ня выходзяць на работу, або з прычыны недобрасумленных адносін да грамадзкай працы маюць зусім нязначную колькасьць выпрацаваных працадзён. І іменна такія элемэнты лягчэй за ўсё паддаюцца на кулацкую провокацыю і робяць замах на грамадзкую соцыялі-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

стычную ўласнасьць, становяцца на шлях раскраданьня колгаснага ўраджаю. Яны забываюцца, што асноўная канечная мэта Кастрычніцкай рэволюцыі—стварэньне соцыялістычнага ладу, а гэта значыць—зьнішчэньне клясаў, зьнішчэньне паразытызму і дармаедзтва, зьнішчэньне магчымасьцяй жыць не працуючы, жыць за кошт працоўных.

«... Першы, асноўны, карэнны пачатак соцыялізму: хто не працуе, той ня есьць»,—пісаў т. Ленін у 1918 г. у пісьме да піцерскіх рабочых.

«Багатыя і жулікі — гэта два бакі аднэй мэдалі,—пісаў у тым-жа 1918 г. т. Ленін,—гэта два галоўныя разрады паразытаў, ускормленых капіталізмам, гэта галоўныя ворагі соцыялізму; гэтых ворагаў трэба ўзяць пад асобы нагляд усяго насельніцтва, з імі трэба бязьлітасна расправіцца пры самым малым парушэньні імі правіл і законаў соцыялістычнага грамадзтва. Усякая слабасьць, усякія ваганьні, усякія сантымэнтальні-

чаньні ў гэтых адносінах былі-б найвялікшым злачынствам перад соцыялізмам».

Усё гэта з дастатковай яскравасьцю пацьвярджае само жыцьцё. Пададзім некаторыя факты.

У маі 1932 г. было выяўлена, што заг. складам Белплодгародніны Кордыман з работнікамі складу і возчыкамі Насеньнікавым, Сылаевым, Ерасімавым і іншымі антыграмадзкімі разлажыўшыміся элемэнтамі сыстэматычна раскрадалі тавары і продукты са складу Белплодгародніны, нанёсшы рабочай дзяржаве колёсальныя страты, і для сукрыцьця сьлядоў злачынства яны вырвалі з кніг уліковыя дакуманты. Гэта група ворагаў працоўных, апрача гэтага, у ноч з 18 на 19 мая 1932 г. зрабілі ўзброены напад і аграбілі касу Белплодгародніны.

Вясной 1932 г. былы гандляр Рыўкін, залезшы ў Дрысенскі Райзаг у якасьці загадчыка складам яшчэ з іншымі антыграмадзкімі элемэнтам Гарбулёвым, заявілі аб крадзяжы ў іх на складзе 35 кг масла.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Калі праверылі, то выявілася, што масла ў колькасьці не **35 кг, а 57 кг** імі самімі ўкрадзена і што, апрача гэтага, яны ўкралі і іншыя тавары.

Характэрна адзначыць, што, ня гледзячы на відавочнасьць гэтага акту клясавага ворага, народны судзьдзя Дрысенскага раёну т. Арцем'еў гэтага акту клясавай помсты ня бачыў і справу змазаў. Справа гэта была належным чынам пастаўлена толькі пасьля ўмяшаньня касацыйнай колегіі Вярхсуда.

У Сураскім раёне заможныя Хаванскія Іван і Ільля, якія судзіліся за кражу і хуліганства, залезшы ў колгас «Барэц», сыстэматычна раскрадалі маемасьць гэтага колгасу і стараліся ўзарваць яго знутры. Калі іх з колгасу выключылі, яны ў ноч з 5 на 6 чэрвеня 1930 г. на глебе клясавай помсты падпалілі будоўлі колгасу і будоўлі актывіста-брыгадзіра Анешкіева, зрабіўшы шкоду колгасу і т. Анешкіеву больш як на 10 тыс. руб.

У г. Менску група антыграмадзкіх элемэнтаў, залезшых у Сьвінатрэст, Лесбел, Саюзмука—Лянчэў-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

скі, Зеленка, Вятрынскі, Зэндэль, Цывінскі і інш.,—пачынаючы з лістапада 1931 г. па май 1932 г. сыстэматычна раскрадалі дзяржаўную маемасьць, украўшы 11 250 кг аўса, 200 пудоў кукурузнай мукі, 30 пудоў пшанічнай мукі і іншыя тавары, прынёсшы рабочай дзяржаве колёсальную маемасную шкоду.

У чэрвені 1932 г., пры адчыненьні першага колгаснага базару ў Гомелі, заг. крамай ЦРК Шурын і прыказчык Хасін пад выглядам сустрэчы колгаснага базару і продажу тавару колгасьнікам забралі ў магазыне 7 пар ботаў, 27 пар штаноў, 18 пар піджакоў, 26 штук шпулек нітак і занесьлі ўсё гэта да хаты да сваіх сваякоў для перапродажу гэтых тавараў гандлярам.

У Клімавіцкім раёне гандляр Мархасін, згаварыўшыся з антыграмадзкім элемэнтам Барадзіліным, у ноч на 4 жніўня 1932 г. укралі карову ў колгасе «Ўдарнік», зарэзалі яе і прадалі мяса за 1 500 руб.

У тым-жа раёне і ў той-жа час быў злоўлен грамадзянін Чэпік, які

ДЛЯ ЗАЎВАГ

краў колгаснае збожжа—праз абразаньне каласоў; пры затрыманьні ён адстрэльваўся з абрэзу.

У Старобінскім раёне злодзей, рэцыдывіст Комчанка Андрэй, абліў газай 20 пудоў колгаснага збожжа.

У Заслаўскім раёне 16 жніўня 1932 г. група антыграмадзкіх элемэнтаў на чале з дачкой сасланага кулака Шулей С. укралі з поля колгасу «Зара соцыялізму» каля 300 снапоў збожжа.

Тады-ж і там-жа заможны Васілеўскі са сваёй жонкай, якая ўжо судзілася, зрэзалі каласы з поля саўгасу «Валоўшчына».

У тым-жа Заслаўскім раёне ў той-жа час заможны Блін са сваёй жонкай укралі з поля колгасу «Серп і молат» 40 снапоў жыта і неабмалочанымі скарысталі іх сьвіньням на подсьцілку.

Або возьмем для прыкладу факты шкодніцкай спэкуляцыйнай дзейнасьці клясавага ворага ў іншых рэспубліках Саюзу. Вось, напрыклад, у праўленьні колгасу пралезьлі кулакі, якія за год распра-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

далі і раскралі 1 555 пудоў колгаснага рысу, 1 900 пудоў морквы, 823 пуды кукурузы, 3 980 пудоў пшаніцы. З усяго ўраджаю пшаніцы кулацкая шайка выдзеліла колгасьнікам толькі 279 пудоў. Ёю было прадана 276 колгасных коняй і 44 быкі. Усе грошы шайка забрала сабе. Кулакі, пралезшыя ў колгас, устрайвалі папойкі на базарах, прапіваючы колгаснае дабро.

Далей—справа грозьненскіх спэкулянтаў, дзе група гандляроў—Байбекаў, Енглышаў, Мешараў і Міхедаў разам са зладзеямі—распрацавалі плян, у які ўваходзіла ствараць на базары паніку і, скарыстаўшы яе, раскрадаць прывезеную колгасную маемасьць, што ім адзін раз удалося зьдзейсьніць.

Справа організацыі грабіцеляў на Менскім чыгуначным вузьле, дзе шайка зладзеяў работнікоў—Пашкоўскага, Крука, Татаржыцкага і іншых, якія не адзін раз судзіліся за кражу, хуліганства і іншыя злачынствы, на працягу 3 месяцаў дзейнічалі на Менскім чы-

гуначным вузьле і аграблялі вагоны з грузамі.

Гэтыя факты наглядна паказваюць, што асноўнымі арганізатарамі зладзейства пакраж колектыўнай, коопэрацыйнай і дзяржаўнай маемасьці, кражы грамадзкай социялістычнай маемасьці зьяўляюцца кулацкія элемэнты, былыя гандляры і т. д., што барацьба са стратамі зьяўляецца цяпер адным з важнейшых фронтаў вострай клясавай барацьбы, дзе клясавы вораг спрабуе праз кражы стварыць цяжкасьці на шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

Грамадзкая ўласнасьць прызнаецца «сьвяшчэннай і недатычнай» (з пастановы ўраду).

Вось чаму людзі, якія спакушаюцца па гэту ўласнасьць, «павінны разглядацца, як ворагі народу» (з пастановы ўраду).

Вось чаму пастанова прапаноўвае прымяніць расстрэл з конфіскацыяй усёй маемасьці і з заменай пры зьмякчаючых абставінах пазбаўленьня свабоды на тэрмін



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ня ніжэй 10 год з конфіскацыяй маемасьці бяз прымяненьня амністыі за пакражу грузаў на чыгуначным і водным транспорце і за пакражу колгаснай і коопэрацыйнай маемасьці. Працоўныя не дазволяць, каб іх абкрадалі клясавыя ворагі.

Закон капіталізму накірован на ахову прыватнай капіталістычнай уласнасьці. Савецкія законы накіраваны на ахову грамадзкай уласнасьць і хто робіць замах на яе, робіць замах на асноўныя заваевы савецкага ладу. Газэты штодзенна паведамляюць аб тым, як дзесяткі, сотні і тысячы лепшых пролетараў капіталістычны сьвет штодзённа і шточасна кідае ў турмы і расстрэльвае за спробы зьнішчэньня ладу прыватнай уласнасьці кучкі магнатаў, як капіталіст кідае ў турму дзесяткі тысяч рабочых і сялян, якія робяць замах на тую ўласнасьць, якая самым грабежніцкім чынам прысвойваецца капіталістамі ў рэзультаце шалёнай экспл`атацыі рабочай клясы і працоўных сялян. У краінах капіталізму

ДЛЯ ЗАЎВАГ

законы накіраваны супроць тых, хто робіць замах на ўласнасьць мільянэраў, у нас—у СССР—хто робіць замах на соцыялістычную ўласнасьць нашых заводаў, саўгасаў колгасаў.

Як відаць з вышэйпаданых фактаў кулацка - капіталістычныя і антыграмадзкія элемэнты вельмі часта тэрорызуюць колгасьнікаў, пагражаюць, каб прымусіць іх выйсьці з колгасу і разваліць яго. Таму пастанова ЦВК і СНК прапануе «павесьці рашучую барацьбу з тымі супроцьграмадзкімі кулацка-капіталістычнымі элемэнтамі, якія прымяняюць гвалт і пагрозы або прапаведуюць прымяненьне гвалту і пагроз да колгасьнікаў з мэтай гвалтоўнага разбурэньня колгасу» і прымяняць за гэта пазбаўленьне свабоды ад 5 да 10 год з заключэньнем у концлягер без прымяненьня амністыі.

Трэба помніць, што нават да чалавека, які вышаў з соцыяльна блізкага пролетарыяту асяродзьдзя, за крадзеж неабходна бязумоўна прымяняць суровыя меры



ДЛЯ ЗАЎВАГ

сацыяльнай абароны, бо няма і ня можа быць ніякіх апраўданьняў крадзяжам у Савецкім саюзе, дзе ліквідавана беспрацоўе, дзе бесьперапынна расьце дабрабыт працоўных. Пастанова ўраду аб барацьбе з раскраданьнем выдана па ініцыятыве рабочых і колгасьнікаў, па іх патрабаваньні, што зьўляецца рэзультатам беражлівых адносін працоўных да грамадзкай уласнасьці, як да сваёй блізкай, роднай, кроўнай; рэзультатам таго, што колектыўная праца з ганебнай стала ўжо для мільёнаў мас «справай гонару, адвагі і геройства» (Сталін). Адсюль надзвычайна вялікая нянавісьць мільёнаў працоўных да тых, хто хоча не працаваць і жыць за кошт раскраданьняў і грабяжу. Іменна таму ня можа быць літасьці да клясавага ворага, злодзея, спэкулянта, які пасягае на грамадзкую ўласнасьць мільёнаў, бо замах на грамадзкую ўласнасьць **самае цяжкае і вялікае злачынства.**

Адсюль—неабходнасьць выключна рашучай бязьлітаснай барацьбы

ДЛЯ ЗАЎВАГ

з клясавымі ворагамі, зладзеямі, спэкулянтамі.

Адсюль—тая выключная ўвага, якая павінна прыкаваць да сябе пастанову ўраду ад 7 жніўня 1932 г.

## IV. Барацьба са спэкуляцыяй

Саюзьнік злодзея, раскрадальніка грамадзкай маемасьці—спэкулянт. Як гэта можна бачыць з паданага вышэй факту аб пакражы гандляром Мархасіным з Брадулiным каровы ў колгасе і з цэлага раду іншых фактаў, спэкулянт у значнай меры зьяўляецца непасрэдным памочнікам злодзея. Спэкулянт збывае маемасьць, украдзеную з дзяржаўных складаў, магазынаў, з колгасных і саўгасных палёў, сьвірнаў, хлявоў і інш.

Спэкулянта аб'ядноўвае з злодзеем, бандытам тое, што ўсе яны паразыты на целе савецкай дзяржавы, што ўсе яны спрабуюць жыць за кошт пакраж, грабяжу і спэкуляцыі. Старыя прынцыпы ка-

піталізму: крадзі, эксплёатуй—кулак, спэкулянт, злодзей спрабуюць праводзіць у Савецкім саюзе.

Спэкулянт робіць колёсальную шкоду рабочаму, скупляючы ў колгасьнікаў харчовыя тавары і ўзьвінчваючы на іх цэны, і—колгасьніку, організуючы чаргі ў магазынах, якія гандлююць прадметамі шырокага спажываньня і перапрадаючы пасьля тавары колгасьніку ў шмат разоў даражэй.

Урадавыя законы аб разгортваньні колгаснага гандлю даюць колгасу, колгасьніку і працоўнаму аднаасобніку права непасрэднага выхаду на рынак, непасрэднага продажу сальгаставараў працоўным у горадзе. Астатнюю частку сельгаспродуктаў загатаўляюць у колгасаў і колгасьнікаў дзяржаўныя і коопэрацыйныя організацыі, і такім чынам ніякай патрэбы ў прыватным пасярэдніку-спэкулянце няма. Сучасны гандаль карэнным чынам адрозьніваецца ад ранейшага. Сучасны гандаль праходзіць ва ўмовах колектывізацыі большасьці сялянскіх аднаасобных

ДЛЯ ЗАЎВАГ

гаспадарак, ва ўмовах разьвіцьця і ўмацаваньня дзяржаўнай і коопэрацыйнай гандлёвай сыстэмы.

Вось чаму папярэднія законы савецкага ўраду аб колгасным гандлі патрабавалі «усялякім чынам зьнішчаць перакупшчыкаў і спэкулянтаў, якія прабуюць нажыцца за кошт рабочых і сялян». Вось чаму пастанова ЦВК і СНК СССР ад 22-VIII 1932 г. патрабуе узмацненьня рэпрэсій у адносінах да спэкулянта і прапануе прымяняць да спэкулянтаў і перакупшчыкаў — паразытаў савецкай дзяржавы — заключэньне ў концлягер тэрмінам на 5—10 год без прымяненьня амністыі.

Ніякай мяккацеласьці, ніякай літасьці да клясавага ворага—спэкулянта, перакупшчыка,—калі нават часам ён вышаў з соцыяльна блізкага пролетарыяту асяродзьдзя. Ганьбай мы павінны пакрыць тых адзіночак рабочых, колгасьнікаў або працоўных аднаасобнікаў, якія спрабуюць стаць на шлях спэкуляцыі, бо ў Савецкім саюзе, дзе няма беспрацоўя, дзе з дня на



ДЛЯ ЗАЎВАГ

дзень расьце матэрыяльны і палітычны ўзровень рабочых і працоўных сялян, няма і ня можа быць апраўданьняў спэкуляцыі.

Пастанова ўраду аб барацьбе са спэкуляцыяй зьяўляецца рэзультатам разгорнутага наступленьня социялізму па ўсім фронце. Расстрэл—клясаваму ворагу, злодзею, раскрадальніку грамадзкай маемасьці, концлягер 5—10 год—спэкулянту.

Накіроўваючы меч пролетарскай дыктатуры супроць кулакоў, злодзеяў, спэкулянтаў, мы павінны ў той-жа час сурова караць тых, хто злоўжывае савецкімі законамі, праяўляе сваволье ў адносінах рабочых, колгасьнікаў, працоўных і аднаасобнікаў.

Як падкрэсьлівае пастанова ЦВК і СНК СССР ад 25 чэрвеня 1932 г. і ЦВК і СНК БССР ад 14 ліпеня 1932 г. аб рэволюцыйнай законнасьці асобае значэньне набывае цяпер ахова правоў колгасных, бядняцкіх і серадняцкіх мас у вёсцы, напрыклад, ад няправільнага раскулачваньня, ня-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

правільнага накладаньня цьвёрдых заданьняў, няправільнай штрафной політыкі па сельскагаспадарчых кампаніях. Задача ўсіх партыйных і савецкіх організацый, кожнага комуніста ,кожнага сьвядомага працоўнага — змагацца з парушэньнем выбарнасьці праўленьняў і іншых органаў колгасаў з самавольным распараджэньнем маемасьцю колгасаў, іх грашовымі сродкамі і адведзенай у іх карыстаньне зямлёй, з прымяненьнем недапушчальных прыёмаў камандваньня ў адносінах колгасаў; змагацца з такімі праявамі беззаконьня і свавольля, як незаконныя вобыскі, арышты, конфіскацыі і адняцьце маемасьці, незаконныя штрафы і інш., як, напрыклад, незаконнае высяленьне, перасяленьне і ўшчыльненьне, незаконнае пазбаўленьне выбарчага права і інш.

Даныя, якія мы маем, гавораць, што ў гэтай галіне ёсьць у наяўнасьці рад парушэньняў савецкіх законаў.

Пададзім некаторыя факты:



ДЛЯ ЗАЎВА

Гарадокская райміліцыя аштрафавала 80 колгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў - аднаасобнікаў за забой жывёлы пасьля выданьня пастановы СНК СССР і ЦВК УсеКП(б) ад 10 мая 1932 г. аб адмене абмежаваньняў па забоі жывёлы.

Гэта-ж міліцыя ў масавым парадку штрафавала колгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў цэлымі вёскамі за дробныя злачынствы і ў радзе выпадкаў, як гэта было ўказана вышэй, накладала на іх штрафы ў большых разьмерах, чым на кулакоў. Калі ўзяць контынгент аштрафаваных па Гарадоцкай райміліцыі за час з 1 студзеня па 1 ліпеня 1932 г., то мы маем такую карціну: з 836 чалавек, аштрафаваных за гэты прамежак часу, усе належаць да ліку працоўных. Гэта гаворыць за тое, што вастрыё штрафной палітыкі Гарадоцкай міліцыі было накіравана супроць працоўных, а «левыя» загібшчыкі забылі пры гэтым аб кулаках. Так льлюць яны ваду на млын правых опортуністаў.

Першамайскі сельсавет Гарадок-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

скага раёну аштрафаваў 11 мая 1932 г. 27 беднякоў і серадгякоў на суму 250 руб. невядома нават за што.

Старшыня Аляксандраўскага сельсавету таго-ж раёну сам аштрафаваў 18 серадиякоў за ўхіленьне дарожных павіннасьцяй.

Аляксандраўскі сельсавет 10 чэрвеня 1932 г. аштрафаваў 9 членаў сельсавету (амаль увесь склад сельсавету) нават бяз усялякіх матываў.

Хвашненскі сельсавет Гарадокскага раёну аштрафаваў у адзін раз 105 беднякоў і серадгякоў, колгасьнікаў і аднаасобнікаў за ўхіленьне ад дарпавіннасьці.

Слаўкавіцкі, Макавіцкі, Беразоўскі сельсаветы Глускага раёну таксама дапускалі масавае штрафаваньне колгасьнікаў, беднякоў і серадгякоў - аднаасобнікаў, прычым, у радзе выпадкаў—за злачынствы, якія не прасьледуюцца па закону (за продаж, напрыклад, жывёлы і інш.) і бяз усялякіх даных, на аснове галаслоўных заяваў некаторых грамадзян.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Выяўлены такія факты, калі, напрыклад, Войханскі сельсавет Гарадокскага раёну склаў заведама ілжывы протокол на серадначку Гучкову за забой жывёлы для таго, каб аштрафаваць яе на 150 р.

Такія факты скажэньняў штрафной практыкі выяўлены ў Камарынскім, Талочынскім, Бабруйскім і інш. раёнах.

Па лініі колгаснага будаўніцтва мы таксама маем цэлы рад скажэньняў.

Вясной 1932 г. Першамайскі сельсавет Гарадокскага раёну прымусова адняў 4 **га** зямлі ад колгасу «Граніт» і перадаў яе ў карыстаньне коннага транспорту тылапалчэньня.

У чэрвені 1932 г. Вешнеўскі сельсавет таго-ж раёну прымусова адняў у 10 колгасаў 10 кароў і перадаў іх па цьвёрдых цэнах коннаму транспорту тылапалчэньня за тое, што гэты транспорт прымаў удзел у падвозцы матэрыялаў для ільназаводу.

Аляксандраўскі сельсавет Гарадокскага раёну зьняў з работы



ДЛЯ ЗАЎВА

нам. старшыні праўленьня колгасу імя Варашылава т. Дзямідава за дробныя непаладкі ў колгасе, прычым гэты сельсавет да таго захапіўся камандваньнем, што за вясну 1932 г. аб'явіў суровыя вымовы з папярэджаньнем за дробныя непаладкі ў колгасах старшыням праўленьняў колгасаў «Чырвоны пахар», «Чырвоны барэц», «Чырвоны Бор», «Чырвоны двор» і «Чырвоны вугал», г. зн. усім старшыням праўленьняў колгасаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельсавету, ня даючы ім у той-жа час практычнай дапамогі ў іх рабоце.

У Багушэўскім сельсавеце Бабруйскага раёну былі прымусова аб'яднаны два колгасы, у рэзультаце чаго вышлі з колгасаў некаторыя колгасьнікі.

У Слаўкавіцкім і Жалвіцкім сельсаветах Глускага раёну ў 1932 г., асабліва ў часе загатовак, мелі месца незаконныя вобыскі, адняцьце маемасьці ў колгасьнікаў, беднякоў і серадняков-аднаасобнікаў, сем'яў чырвонаармейцаў і чырвоных партызан, прычым у радзе вы-

падкаў дапускаліся незаконныя арышты і нават пабоі гэтых працоўных, як, напрыклад, за 3—4 месяцы 1932 г. работнікамі Слаўкавіцкага сельсавету і некаторымі раённымі брыгадзірамі праз незаконныя вобыскі і ў некаторых выпадках праз разлом замкоў былс забрана збожжа і іншая маємасьць у колгасьнікаў, беднякоў і серадняков-аднаасобнікаў, сем'яў чырвонаармейцаў і чырвоных партызан—**Ахрэмчыкава, Сімчык Мар'і, Мікуліча, Балтушкіна, Чалапанава, Рудзько, Бобука, Прыдыбайла, Балтушкіна Якава, Маханька, Дзешчыні, Богур, Маруса, Маруса Мацьвея, Любанца, Шаблоўскага, Маханька Мар'і, Сіліванавай, Маханька П., Станкевіча, Жаўрыдавай і інш.**

Характэрна адзначыць. такія факты, калі, напрыклад, у б. батрака, цяпер колгасьніка, **Ахрэмчыкава** ня толькі яўна незаконна забралі амаль апошнюю бульбу, сена і іншую маемасьць, але і арыштавалі яго. Калі бядняк **Прыдыбайла** ў момант адняцьця ў яго амаль

ДЛЯ ЗАЎВАГ

апошняга неабмалочанага ячменю спрабаваў не дапусьціць гэтага, ён і яго сын былі арыштаваны і пасаджаны зімой у халодным хлеве, а пасьля засуджаны судом на прымусовыя работы, як за супраціўленьне прадстаўнікам улады пры выкананьні імі сваіх «законных» абавязкаў. Член сельсавету колгасьнік **Балтушкін** быў арыштаваны і пасаджан зімою ў істопку з прычыны таго, што ён адмовіўся ісьці забіраць у колгасьнікаў беднякоў і серадняков апошняе збожжа. Былы батрак, комсамолец, колгасьнік т. **Аляшкевіч** быў арыштаваны і аштрафаваны, як за абразу прадстаўніка ўлады за тое, што ён указаў старшыні сельсавету **Кабарэнку,** які набіў яго матку, што так вось рабілі ураднікі; неабходна адзначыць, што гэты Кабернік мае цэлы паслужны сьпіс наглых зьдзекаў над колгасьнікамі; ён, напрыклад, пераламаў ключыцу г-цы Зяленцы за тое, што яна не хацела аддаць яму збожжа і пабіў грамадзянку Мікуліч за тое, што яна

спрабавала бегчы з незаконна адабраным у яе хлебам.

Як інакш, як не недапушчальным свавольлем, грубым парушэньнем рэволюцыйнай законнасьці характарызаваць такія факты, як індывідуальнае абкладаньне і фактычнае раскулачваньне серадняцкай гаспадаркі Тарасэвіча, жыхара Заслаўскага раёну, у якога два сыны служаць у Чырвонай арміі. Тарасэвіч быў ня толькі няправільна індывідуальна абкладзен, але апрача таго быў засуджан да пазбаўленьня свабоды на два гады.

І такія факты, калі сям'я рабочага-пэнсыянэра і чырвонаармейца Сухарскага ў г. Бабруйску была яўна незаконна выселена на вуліцу; калі заявы і скаргі рабочых і працоўных мас гораду і вёскі, якія закраналі іх штодзенныя інтарэсы, марынаваліся да аднаго году ў Першамайскім сельсавеце Гарадокскага раёну, Бабруйскім райснабе і іншых органах.

Сьпіс падобных фактаў значны.

Гэтыя факты гавораць аб найбольш яркай праяве «лявацкага»

ДЛЯ ЗАЎВАГ

загібу, дапамагаючага праваму опортуністу і кулаку.

Каберцікі і ім падобныя фактычна дапамагаюць клясаваму ворагу.

Партыя і савецкая ўлада будзе бязьлітасна караць Кабернікаў.

Кожны комуніст, кожны савецкі работнік, кожны кіраўнік колгасу павінен зразумець, што вялізарны рост політычнага і культурнага ўзроўню мас патрабуе перабудовы кіраўніцтва, патрабуе больш гібкіх, больш чулых адносін да патрэб і запатрабаваньняў мас.

Культурна-бытавыя і матэрыяльныя запатрабаваньні рабочай клясы і працоўных мас гораду і вёскі надзвычайна ўзрасьлі ў параўнаньні з тым, што мы мелі некалькі год таму назад. Таму захаваньне законаў, якія абараняюць правы і інтарэсы рабочых і працоўных, як, напрыклад, законы аб колгасным і савецкім гандлі, збожжазагатоўках, мясазагатоўках, жыльлёвай політыцы і інш., якія накіраваны на хутчэйшае палепшаньне снабжэньня працоўных вёскі прамысловымі таварамі і продуктамі

сельскай гаспадаркі, на хутчэйшае палепшаньне іх жыльлёва-бытавых і іншых жыцьцёвых умоў,—зьяўляюцца асабліва важнымі на даным этапе. Таму пастанова ЦВК і СНК СССР і БССР і ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б так завастраюць увагу на пытаньнях рэвалюцыйнай законнасьці, на ўмацаваньні рэвалюцыйнай законнасьці, якая зьяўляецца магутным сродкам у руках пролетарыяту ў барацьбе за пабудову соцыялізму.

З другога боку, мы павінны весьці рашучую барацьбу, як правільна падкрэсьліў Наркомюст РСФСР т. Крыленка, за правядзеньне ў жыцьцё законаў аб гасразьліку, аб дагаворнай дысцыпліне, аб забароне непасрэднага тавараабмену і за выкананьне прамфінпляну ў якасных і колькасных паказальніках. Гэтыя законы ў нас часта парушаюцца, што прыносіць шкоду соцыялістычнаму будаўніцтву. Таму барацьба за іх захаваньне натуральна набывае надзвычайна важнае значэньне.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Неабходна цьвёрда запамятаць, што ў барацьбе за ўмацаваньне рэволюцыйнай законнасьці мы сустракаемся і сустрэнемся з клясава-варожымі элемэнтамі, якія спрабуюць па-свойму вытлумачыць рэволюцыйную законнасьць. Можна падаць такія прыклады.

У часе праверкі стану рэволюцыйнай законнасьці ў Слаўкавіцкім сельсавеце зьяўвіўся раскулачаны кулак **Дзешчыня** і патрабаваў неадкладнага звароту яму зямлі і маемасьці на аснове апошніх пастаноў ураду аб рэволюцыйнай законнасьці.

Другі характэрны прыклад: кулакі Ляскавіцкага сельсавету, Глускага раёну, у ліпені 1932 г., пры дапамозе папаўшых пад іх уплыў некаторых серадьнякоў, стварылі з мэтай клясавай помсты несапраўдную справу на старшыню сельсавету т. Позьняка, сакратара ячэйкі т. Акуліча і іншых актывістаў. Яны абвінавацілі іх на аснове ілжывых падтасаваных доказаў у незаконных вобысках, у адабраньні маемасьці, у арышце працоўных,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

п'янстве і іншых злачынствах. Таварышы — Позьняк, Акуліч і інш.,—дзякуючы клясавай недальнабачнасьці мясцовай прокуратуры і іншых мясцовых органаў, якія ня ўбачылі ў гэтым акце клясавай помсты,—былі арыштаваны і перададзены ў суд. Распаясаўшыяся-ж кулакі вялі прыкладна такую агітацыю: «Вось што значыць рэволюцыйная законнасьць. Ад Позьняка і Акуліча, якія душылі нас,—збавіліся, мы цяпер уздыхнем свабодна. Падатак будзем роўны плаціць, збожжа будзем здаваць пароўну і т. д.».

Адсюль вынікае, што «з боку клясава - варожых элемэнтаў будуць спробы па-свойму вытлумачыць правядзеньне рэволюцыйнай законнасьці, будуць спробы вытлумачыць патрабаваньні партыі і савецкай улады аб умацаваньні рэволюцыйнай законнасьці ў бок паслабленьня барацьбы супроць клясава - варожых элемэнтаў» (з прамовы т. Молатава на III Усеукраінскай партконфэрэнцыі ад 8 ліпеня 1932 г.). І таму, як заклю-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

чае далей т. Молатаў, «задача бальшавікоў і ўсіх сумленных прыхільнікаў савецкай улады—забясьпечыць правядзеньне рэволюцыйнай законнасьці ў карысьць працоўных, колгасьнікаў і працоўных сялян - аднаасобнікаў» (Молатаў, там-жа).

Адсюль—задача як найхутчэй давесьці гэтыя пастановы партыі і ўраду аб рэволюцыйнай законнасьці, аб ахове соцыялістычнай уласнасьці і аб барацьбе са спэкуляцыяй да кожнага рабочага і працоўнага гораду і вёскі, бо толькі ў гэтым выпадку яны зробяцца магутным сродкам барацьбы з клясавым ворагам і яго агентамі, зброяй далейшага разгортваньня соцыялістычнага наступленьня.

**За рэволюцыйную законнасьць, за ахову грамадзкай соцыялістычнай уласнасьці.**

**Бязьлітасная барацьба з кулаком, ворагам, спэкулянтам.**

**За пяцігодку ў чатыры гады.**

**За пабудову бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва ў другую пяцігодку.**

---

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

